наша свабода

№136(223) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 СНЕЖНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## У Дэлі адбыўся тэракт

У выніку бою, які амаль паўгадзіны ішоў на тэрыторыі парламенцкага комплексу ў Дэлі, загінулі чатыры чалавекі. Як паведамляе індыйскае тэлебачанне, усе чацвёра — тэрарысты, якія напалі на будынак парламенту. Паводле папярэдняе інфармацыі, прэм'ер-міністр Індыі, міністры і чальцы парламенту Індыі ў інцыдэнце не пацярпелі.

Паводле апошніх звестак, у гэтым баі, акрамя тэрарыстаў, загінулі шасцёра супрацоўнікаў аховы. Як кажуць медыкі, якія працуюць на месцы здарэння, яшчэ шасцёра працаўнікоў парламенту атрымалі вельмі цяжкія раненні і цяпер знаходзяцца ў крытычным стане.

**Іван ПЯТРОЎ**

## Амерыка дэнансуе дамову

Учора ўвечары прэзідэнт ЗША Джордж Буш меўся афіцыйна абвясціць, што ягоная краіна выходзіць з савецка-амерыканскай дамовы па супрацьракетнай абароне (СРА). Паводле гэтага дакумента, той бок, які вырашыць дэнансаваць дамову, мусіць папярэдзіць іншы за паўгода. Гэта значыць, што выхад з дамовы па СРА афіцыйна адбудзецца 13 чэрвеня 2002 году.

Дамова падпісвалася СССР і ЗША яшчэ ў часы "халоднай вайны" ў 1972 годзе і абмяжоўвала структуру ядзерных войскаў, у прыватнасці, колькасць боегаловак на кожнай ракеце. Расіяне пры гэтым скардзяцца на «пагрозу сусветнай стабільнасці», маючы на ўвазе найперш сябе.

**Ірына СТАРЦАВА**

## Лёс законапраекту «Аб дэмакратыі ў Беларусі»

Знешняя палітыка ЗША пасля 11 верасня засяродзілася галоўным чынам на барацьбе з тэрарызмам. Аднак у бліжэйшы час амерыканскі сенат зверне сваю ўвагу і на рэжым Аляксандра Лукашэнкі. Як мы раней паведамлялі, амерыканскі сенатар Джэсі Гелмс прапанаваў законапраект «Аб дэмакратыі ў Беларусі». Чакаецца, што ён можа быць прыняты ў студзені наступнага году. Прапануем некаторыя падрабязнасці.

Сенатар-рэспубліканец Джэсі Гелмс прадставіў законапраект, у якім прапануецца ўзмацніць ізаляцыю ўладаў Беларусі і вылучыць 30 мільёнаў даляраў на дапамогу апазіцыі з мэтай адхілення ад улады Аляксандра Лукашэнкі.

Пачаткова законапраект меў назву «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі-2001». Але спачатку яго павінна разгледзець ніжняя палата Кангрэсу – палата прадстаўнікоў. Хутчэй за ўсё, гэта адбудзецца на сесіі ў студзені 2002 году. Многія кангрэсмены ўжо выказалі сваю зацікаўленасць у падтрымцы законапраекту, і яго могуць канчаткова прыняць у наступным годзе.

Некалі сенатар Гелмс быў ініцыятарам эканамічных санкцыяў ЗША супраць Кубы. Паводле акту аб дэмакратыі ў Беларусі, апрача палітычных партыяў, фінансавую дапамогу павінны атрымаць і дэмакратычныя няўрадавыя арганізацыі, у тым ліку незалежная прэса.

*Заканчэнне на стар.3*

## Аўтара «Чаявання» затрымалі ў Брэсце



Мастак Артур Клінаў і ягонае славутае "Чаяванне"

У ноч на 13 снежня пры перасячэнні мяжы супрацоўнікі міліцыі затрымалі ў цягніку супрацоўніка Архіву найноўшае гісторыі Вацлава Арэшку і вядомага мастака Артура Клінава. Пра гэта паведаміла радыё «Рацыя».

Учора ў Брэсце над імі адбыўся суд. На момант падпісання нумару ў друк ягоныя вынікі былі яшчэ невядомыя.

Вацлаў Арэшка паведаміў падрабязнасці здарэння: «Падставы вельмі сумнеўныя. Фармальна — нас абвінавацілі ў хуліганстве. Пратрымалі ноччу ў кайданках, Клінава саджалі ў «ластаўку». Затрымлівалі спачатку мытнікі, потым — міліцыянты. Ніхто з іх не назваў свайго прозвішча. Ніякіх пратаколаў мы не падпісвалі, акрамя пратаколу канфіскацыі рэчаў; праўда, потым усе рэчы нам аддалі».

**Ірына СТАРЦАВА**

## Пікет ля прэзідэнцкай адміністрацыі

Чатыры жыхаркі Бабруйска маюць намер правесці 19 снежня ля будынку адміністрацыі прэзідэнта Беларусі ў Мінску пікет супраць самавольства бабруйскіх уладаў.

Як паведаміла БелаПАНу адна з гэтых жанчын — Любоў Станкевіч, яна ўжо не спадзяецца дамагчыся справядлівасці ў мясцовых уладаў. 16 сакавіка сёлета яе звольнілі з пасады старшага бухгалтара завода трактарных дэталей і агрэгатаў нібыта за сістэматычнае парушэнне працоўных абавязкаў. Рэальнай жа прычынай звальнення, паводле словаў Станкевіч, стаў яе канфлікт з адміністрацыяй прадпрыемства. Як сцвярджае Любоў Станкевіч, адміністрацыя сістэматычна завышае сабекошт прадукцыі (пра што Станкевіч паведамляла кантрольным органам), а таксама груба парушае чарговасць атрымання кватэр работнікамі завода.

Другая ўдзельніца планаванай акцыі — Ева Усцімчук -- 15 гадоў стаяла ў чарзе на кватэру. Яе звольнілі пасля таго, як жанчына пачала абураць несправядлівасцю размеркавання жылля. Яніна Аўсянік стаяла ў чарзе на жыллё 16 гадоў. Не атрымала абяцанага жылля і Галіна Гусева — маці пяці дзяцей, якіх яна выхоўвае адна.

З 13 па 22 жніўня гэтага году жанчыны правялі пікет і галадоўку на цэнтральнай плошчы Бабруйска. Аднак ні акцыя пратэсту, ні шматлікія звароты ў органы ўлады не прынеслі вынікаў, апрача дадатковых непрыемнасцей. Не дапамаглі і афіцыйныя звароты да прэзідэнта Лукашэнкі, у сустрэчы з якім бабруйчанкам адмовілі. У выніку даведзеныя да адчаю жанчыны рашыліся на пікетаванне прэзідэнцкай адміністрацыі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Шампанскага хопіць

Напярэдадні калядных і навагодніх святаў у гандлёвую сетку Беларусі будзе пастаўлена 2 млн. бутэлек айчыннага шампанскага і 2,5 млн. падарункавых набораў цукерак. У чацвёртым квартале бягучага году «амаль на адну чацвёртую» ў параўнанні з апошнім кварталам мінулага году павялічана квота на выпуск шампанскага. Мінскі завод ігрыстых вінаў вырабіць «больш як 3 млн. бутэлек» гэтага напою.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Штраф рэдактару «Пагоні»

Праз месяц пасля закрыцця гаспадарчым судом газеты «Пагоня» яе галоўны рэдактар Мікола Маркевіч пакараны штрафам. 13 снежня суддзя Дзмітрый Дземчанка прысудзіў яму штраф памерам 50 мінімальных заробкаў за пікет у падтрымку «Пагоні», які адбыўся ў Гродне 19 лістапада.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Цэны растуць

Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу, у лістападзе спажывецкія цэны павысіліся на 4,6 %. Гэта ў 1,3 раза больш, чым у кастрычніку, у 2,2 раза больш, чым у верасні, і ў 5,8 раза больш, чым у жніўні. Вышэйшы, чым цяпер, паказчык месячнага росту цэн быў зафіксаваны сёлета ў студзені (на 4,8%). З пачатку году спажывецкія цэны павялічыліся на 38,5%. Для параўнання: у лістападзе рост спажывецкіх цэн у Расіі склаў 1,4 працэнта, у Казахстане – 0,9, ва Украіне – 0,5.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**



**ВЕСТКІ**



## Нелегалы з Індыі

12 снежня пры спробе перасекчы беларуска-украінскую мяжу былі затрыманыя некалькі дзесяткаў нелегальных мігрантаў. Нелегаламі аказаліся 26 грамадзян Індыі і 5 непальцаў.

## Мінчук параніў міліцыянта

Пракуратура Партызанскага раёну Мінску ўзбудзіла крымінальную справу па артыкуле «замах на забойства» супраць мінчука, які нанёс цяжкія раненні грудной клеткі маёру міліцыі. Замах адбыўся проста ў пастарунку.

## Цяжка дыхаецца

Як паведаміла галоўны тэрапеўт міністэрства аховы здароўя Таіса Баравая, за апошнія 5 гадоў колькасць захворванняў органаў дыхання вырасла на 15%. Больш за ўсё лекараў непакояць такія хваробы, як астма і хранічны бранхіт, якія займаюць сёмае месца ў структуры першаснай інваліднасці.

## Мала аўтобусаў

Мінскі аўтамабільны завод павялічыў выпуск грузавікоў. Але зменшыў вырабніцтва аўтобусаў. Іх сёлета выпушчана ўсяго 399 машын, хоць дзяржаўная праграма «Аўтобус» вымагае 1.500.

## Мір падчас Алімпіяды

ААН заклікала свет захаваць перамір'е на час Зімовых Алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк-Сіці. Аднак у гэтай рэзалюцыі нічога не гаворыцца пра спыненне баявых дзеянняў у Афганістане.

## Білеты падаражэюць

Транспартнікі Мінску маюць намер у 2002 годзе выйсці на 50-працэнтную акупляльнасць. Значыць, варта чакаць падвышэння коштаў на праезныя і талончыкі. Зараз адна паездка каштуе 80 рублёў, а каб пазбавіцца стратнасці перавозак у грамадскім транспарце, кошт талончыка мусіць быць 280 рублёў.

## Перад эпідэміяй

Дактары даводзяць, што сітуацыя з вострымі распіраторна-вірусными інфекцыямі ў беларускай сталіцы ёсць перад эпідэмічнай. Кожны дзень на іх захворвае амаль 4 тысячы чалавек. Пік эпідэміі прыпадзе на студзень.

## Рэкордная кантрабанда спірту

6 снежня літоўская паліцыя затрымала ў Шальчынінкайскім раёне ўжо пасля перасячэння беларуска-літоўскай мяжы 16,2 тысячы літраў кантрабанднага спірту з Беларусі. Праз некалькі дзён у адной з вёсак знойдзеныя яшчэ 57 тысяч літраў. Усяго ў 2001 годзе на літоўска-беларускай мяжы было канфіскавана 35 тысяч літраў алкагольных напояў.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1580**

# «Беларускае пытанне» ў Швецыі

*9-12 снежня дэлегацыі беларускай апазіцыі і Палаты прадстаўнікоў па запрашэнні Сацыял-дэмакратычнай партыі Швецыі наведалі Стакгольм.*

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька, лідэры жаночай партыі «Надзея» Валянціна Палевікова, Партыі камуністаў беларускай Сяргей Калякін, Беларускай партыі працы Леанід Лемяшонак і намеснік старшыні БСДП (Народная Грамада) Уладзімір Нісцюк – ад апазіцыі і Аляксандр Архіпаў, Святлана Гіль, Кірыл Халопік, Уладзімір Навасяд і Анатоль Красуцкі – у якасці пасланцоў афіцыйнага Мінску мелі шэраг сустрэч у кіраўніцтве краіны, бо Сацыял-дэмакратычная партыя ў Швецыі правіць. Цікавасць гэтай паездкі яшчэ і ў тым, што намеснік Генеральнага сакратара СДПШ Урбан Алін аднечасова і ўваходзіць у спецыяльную рабочую групу Парламенцкай асамблеі АБСЕ па Беларусі.

Беларуская дэлегацыя мела шэраг сустрэч на вышэйшым узроўні. Апазіцыянераў вельмі ўразіла праца ўсіх органаў улады, якая «вядзецца абсалютна адкрыта». Як паведаміў С.Калякін, «у Швецыі дэпутаты маюць права заканадаўчай ініцыятывы, але, як правіла, заканадаўчую ініцыятыву праяўляе ўрад. У нас жа, кажуць, галоўная задача дэпутата – пісаць законы. Я лічу, што гэта абсалютна няправільна, тым больш, што дэпутаты не валодаюць дастатковай кваліфікацыяй, каб падрыхтаваць любы закон. Гэта мусяць рабіць прафесіяналы», – сказаў старшыня ПКБ.

Безумоўна, «беларускае пытанне» сталася адным з асноўных у часе візіту ў Швецыю. «У Швецыі існуе вялікая зацікаўленасць развіццём эканамічных, гуманітарных сувязяў з Беларуссю з боку прадпрымальнікаў, буйных бізнесменаў, прамыслоўцаў. Мы сустракаліся з кіраўнікамі кампаніі *Ericsson*, з кіраўнікамі Нацыянальнага банку Швецыі – яны казалі, што вельмі зацікаўлены ў развіцці сувязяў, але, на жаль, умовы гаспадарання, законы ў галіне інвестыцыяў, абароны правоў вытворцаў не дазваляюць шырокамаштабна развіваць гэтыя сувязі. Яны зацікаўленыя ў паляпшэнні гэтых умоваў, якія б спрыялі развіццю нашых эканомік, нашых народаў», – падкрэсліў С.Калякін.

Прэс-служба АГП распаўсюдзіла інфармацыю, што на просьбу члена Палаты прадстаўнікоў аб арганізацыі сустрэчы з кіраўнікамі беларуска-шведскай парламенцкай групы ў Швецыі Урбан Алін адказаў, што гэта немагчыма, бо група супрацоўнічае з Вярхоўным Саветам 13 склікання. Удзельнікі візіту адмовіліся каментаваць гэтую акалічнасць, спасылаючыся на «шматлікія нюансы» ў часе сустрэчы.

**Рыгор БУЯН**

# Лёс законапраекту «Аб дэмакратыі ў Беларусі»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Прадстаўнік дзяржаўнага дэпартаменту ЗША сказаў у інтэрв'ю радыё «Свабода», што амерыканскі ўрад не супраць сутнасці захадаў, прадугледжаных у законапраекце. Ён дадаў таксама, што кіраўніцтва Беларусі апынулася ў ліку тых нешматлікіх урадаў, якія не прапанавалі ніякай падтрымкі ЗША пасля тэрарыстычнага нападу 11 верасня.

Кэты Фіцпатрык – выканаўчая дырэктарка Міжнароднай Лігі правоў чалавека, арганізацыі, якая мае статус дарадцы ў ААН – сказала, што некаторыя з прапанаваных санкцыяў, магчыма, празмерна жорсткія. Аднак у цэлым яна падтрымала законапраект Гелмса і лічыць, што ЗША павінны займаць жорсткую пазіцыю ў дачыненні да Лукашэнкі ды заклікаць да гэтага ж Еўрапейскі Саюз: «Я хацела б гэтага, але я думаю, што, беручы пад увагу сукупнасць усіх іншых праблемаў – ад праблемаў адбудовы Афганістану да Пакістану, Самалі, Паўночнай Карэі – гэта не тэма нумар адзін. Аднак гэта тое, што мы падтрымліваем і мусім падтрымліваць».

На думку выканаўчай дырэктаркі Лігі правоў чалавека, АБСЕ павінна спыніць кансультацыі з афіцыйным Мінскам, паколькі такія кансультацыі ні разу, ад самага 1994 году, не паўплывалі на палітыку Лукашэнкі. Паводле Кэты Фіцпатрык, Захад павінен уздзейнічаць на Мінск падобна таму, як ён уздзейнічаў на Савецкі Саюз – шляхам яснага і паслядоўнага асуджэння.

Нагадаем, што законапраект сенатара Гелмса патрабуе спыніць усялякую дапамогу Беларусі з боку міжнародных фінансавых інстытутаў, замарозіць банкаўскія рахункі высокапастаўленых беларускіх асобаў у ЗША, забараніць імпарт прадукцыі, выраблена на дзяржаўных прадпрыемствах, і скасаваць усе кантракты паміж амерыканскімі фірмамі і беларускімі кампаніямі, у якіх кантрольны пакет акцыяў мае беларуская дзяржава.

Санкцыі могуць быць скасаваныя ў выпадку, калі афіцыйны Мінск выпусціць з турмаў палітычных апанентаў – такіх, як прадпрымальнік Андрэй Клімаў, – спыніць пераслед медыяў і правядзе поўнае расследаванне абставінаў знікнення вядомых у Беларусі асобаў. Акрамя таго, аўтар законапраекту патрабуе ад Масквы паважаць дзяржаўны суверэнітэт Беларусі і заклікае еўрапейскія краіны падтрымаць санкцыі да рэжыму Лукашэнкі.

**Віталь ТАРАС**
**Радыё «Свабода»**

# «Ланцуг» у Берліне




Акцыя «Ланцуг неабыякавых людзей» прайшла ў Берліне перад вілай беларускага пасольства. У акцыі ўзялі ўдзел беларускія студэнты з Вольнага Берлінскага універсітэту, студэнты Еўрапейскага універсітэту Віядрына, прадстаўнікі *Amnesty International.* На заканчэнне ўдзельнікі пікету перадалі ў пасольства падпісаную петыцыю.

**Максім ГРУШАВЫ**

# Змены ў войску

Генеральны дырэктар заводу «Гарызонт» Уладзімір Сямашка стаў міністрам энергетыкі Беларусі. Такім чынам, апошняя міністэрская вакансія ў паслявыбарчым урадзе запоўнена.

Можна адзначыць, што У.Сямашка мае вялікі крэдыт даверу ў Аляксандра Лукашэнкі, які і прызначыў яго на новую пасаду. Нездарма «Гарызонт», нягледзячы на свае шматлікія эканамічныя праблемы, быў сярод фаварытаў беларускага кіраўніка.

Прызначэнне «тэлевізійнага дырэктара» на пасаду ў абсалютна новай для яго галіне яшчэ раз сведчыць пра тое, што У.Сямашка належыць да «кола абраных».

Як падае біяграфічная даведка, У.Сямашку 52 гады, ён нарадзіўся ў Калінкавічах Гомельскай вобласці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Больш за 20 гадоў працаваў на НВА «Інтэграл». Адтуль патрапіў на «Гарызонт».

Апроч міністэрства энергетыкі, А.Лукашэнка даволі істотна пераласаваў кадры і ў міністэрстве абароны. Асноўны вынік пераласоўкі той, што Галоўны штаб зрабіўся (відаць, на расійскі ўзор) Генеральным, а два камандуючыя родаў войскаў стравілі свае пасады.

Генеральным штабам, як раней – Галоўным, працягвае камандаваць генерал Сяргей Гурулёў. А вось у выніку зліцця супрацьпаветраных войскаў і ваенна-паветраных сілаў у адно абодва былыя камандуючыя – Валерый Кастэнка і Сяргей Булыгін – апынуліся ў распараджэнні міністра абароны.

Новым камандуючым аб'яднанай структурай стаў Алег Пафераў, які раней займаў пасаду першага намесніка камандуючага войскамі супрацьпаветранай абароны.

Быў прызначаны таксама новы камандуючы сухапутнымі войскамі – ім стаў генерал Юрый Партноў. Як падае радыё «Рацыя», ягоны штаб мяркуецца размясціць недзе па-за Мінскам – у Бабруйску або Горадні.

Усе гэтыя змены ідуць у рэчышчы структурнай мадэрнізацыі беларускай арміі. Цяпер беларускае войска будзе падзелена на сухапутныя сілы, аб'яднанае камандаванне вайскова-паветранымі сіламі і супрацьпаветранай абаронай, а таксама тэрытарыяльныя войскі.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Рахманько прызналі «цяжкім»

Генеральны пракурор Беларусі Віктар Шэйман адклікаў з Савета Рэспублікі сваё прадстаўленне на дачу згоды на затрыманне і арышт члена палаты, былога начальніка Беларускай чыгункі Віктара Рахманько. Пра гэта ў гутарцы з журналістамі пры наведанні 12 снежня Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў паведаміў спікер Савета Рэспублікі Аляксандр Вайтовіч. «Мы вярнулі дакументы ў пракуратуру, і гэтае пытанне, адпаведна, не будзе разглядацца 13 снежня на сесіі, бо мы не маем для гэтага падставаў», – сказаў ён.

Што тычыцца далейшага членства В.Рахманько ў палаце тэрытарыяльнага прадстаўніцтва беларускага парламенту, то, паводле словаў А.Вайтовіча, статусу члена Савета Рэспублікі ён можа пазбавіцца, згодна з заканадаўствам, «толькі пасля рашэння суду».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Статкевіч сыходзіць у адстаўку

20 снежня ў Мінску пройдзе чарговы з'езд Усходнееўрапейскага сацыял-дэмакратычнага форума, прэзідэнт якога – старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч. Гэтым разам М.Статкевіч мае намер падаць у адстаўку з пасады прэзідэнта форуму.

Па-першае, 8 снежня М.Статкевіча зноў пераабралі на кіраўніка Народнай Грамады. Па-другое, як прызнаецца сам Мікола Статкевіч, за два з паловай гады ягонага прэзідэнцтва ва Усходнееўрапейскім сацыял-дэмакратычным форуме ён фактычна «блакаваў развіццё структуры». Рэч у тым, што з восені 1999 году Мікола Статкевіч знаходзіўся пад крымінальным пераследам і быў невыязны. Апроч таго, тэрмін прэзідэнцтва абмежаваны часавымі рамкамі – 2 гады.

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ.** Усходнееўрапейскі сацыял-дэмакратычны форум створаны ўвесну 1999 году па ініцыятыве Міколы Статкевіча. Тады ж палітык быў абраны першым і пакуль адзіным прэзідэнтам форуму. На той час структура аб'ядноўвала сацыял-дэмакратычныя партыі 7 краінаў: Балгарыі, Казахстану, Расіі і краін Закаўказзя.

**Рыгор БУЯН**

# Ці забароняць «Не дазволена цэнзурай»?

11 снежня пад пагрозай закрыцця апынулася выстава «Не дазволена цэнзурай», якая 10 снежня адкрылася ў мінскай галерэі «Золата». Кіраўніцтва галерэі раніцай 11 снежня заявіла арганізатарам, што выстава павінна быць закрыта. Для арганізатараў гэта стала непрыемным сюрпрызам: меркавалася, што выстава будзе працаваць да 20 снежня.

Як патлумачыў арганізатарам выставы ўладальнік галерэі «Золата» Аляксандр Чарапко, рашэнне аб закрыцці прыняў ён сам, каб пазбегнуць праблем для прадпрыемства, якім ён кіруе. Аднак, на думку Алеся Бяляцкага, «можна меркаваць, што не абышлося без ціску ўладаў». Тым не менш, вечарам, зноў жа нечакана для арганізатараў, якія пачалі ўжо рыхтавацца да вывазу экспанатаў, кіраўніцтва галерэі зноў змяніла сваё рашэнне і дазволіла прадоўжыць выставу. Тое, што адбылося, на думку Бяляцкага, лепш за ўсялякія каментары характарызуе сітуацыю ў грамадстве.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Кучарэна запрашае Лукашэнку

Найбліжэйшым часам адвакат Анатоль Кучарэна, які абараняе ў судзе Тамару Рохліну, удаву генерала, дэпутата расійскай ДзяржДумы Льва Рохліна, мае намер заявіць хадайніцтва аб выкліку ў суд у якасці сведкі прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Як паведаміў адвакат, гэта адбудзецца адразу ж пасля заканчэння допыту сведкаў.

Нагадаем, што справу Тамары Рохлінай, якую абвінавачваюць у забойстве мужа, паўторна разглядае суд горада Нара-Фамінска Маскоўскай вобласці. Сваю віну ўдава генерала катэгарычна адмаўляе.

Паводле словаў Анатоля Кучарэны, Леў Рохлін быў асабіста знаёмы з Аляксандрам Лукашэнкам і гутарыў з ім. Асноўная прычына неабходнасці паказанняў Лукашэнкі ў судзе – яго інтэрв'ю, апублікаваныя ў некаторых газетах. У іх беларускі прэзідэнт заяўляў пра тое, што папярэджваў генерала аб магчымасці замаху. «Карыстаючыся выпадкам, я хацеў бы звярнуцца да Аляксандра Рыгоравіча праз беларускія сродкі масавай інфармацыі (гэта і асабістая просьба Тамары Паўлаўны): калі ёсць такая мажлівасць, даць паказанні ў судзе», – сказаў Кучарэна. На яго думку, паказанні Лукашэнкі, калі ён палічыць патрэбным выступіць у судзе, могуць адыграць вельмі важную ролю ў справе абароны і нават выратавання Тамары Рохлінай. Пры гэтым адвакат зазначыў, што Крымінальна-працэсуальны кодэкс не дазваляе выкарыстоўваць іншыя формы дачы паказанняў, апрача допыту ў судзе.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Найбольшыя пагрозы Беларусі

*У рамках праекту «Беларусь: перспектывы ў XXI стагоддзі» ў лістападзе 2001 г. НІСЭПД правёў апытанне лідэраў грамадскае думкі і экспертаў (палісімэйкераў, бізнесменаў, аналітыкаў і кіраўнікоў СМІ), якія прыкладна пароўну прадстаўлялі дзяржаўныя і недзяржаўныя структуры.*

**РАЗМЕРКАВАННЕ АДКАЗАЎ НА ПЫТАННЕ «ШТО, НА ВАШУЮ ДУМКУ, СЛУЖЫЦЬ СЁННЯ НАЙВЯЛІКШАЙ ПАГРОЗАЙ ДЛЯ БЕЛАРУСІ?» (АДКРЫТАЕ АПЫТАННЕ)**

| Варыянт адказу | Усе апытаныя | Працаўнікі дзяржсектару | Працаўнікі недзяржаўнага сектару |
|---|---|---|---|
| Аўтарытарны рэжым | 32.4 | 23.5 | 40.5 |
| Адсутнасць эканамічных рэформаў | 31.0 | 17.6 | 43.2 |
| Страта незалежнасці | 28.2 | 8.8 | 45.9 |
| Няразвітасць дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці | 25.4 | 20.6 | 29.7 |
| Галеча насельніцтва | 11.3 | 11.8 | 10.8 |
| Беззаконне, злачыннасць, парушэнні правоў чалавека | 15.5 | 23.5 | 8.1 |
| Заняпад маралі | 8.5 | 8.8 | 8.1 |
| Міжнародная ізаляцыя | 8.5 | 8.8 | 8.1 |
| Знішчэнне нацыянальнай культуры | 5.6 | – | 10.8 |
| Раскол грамадства | 4.2 | 8.8 | – |
| NATO | 4.2 | 8.8 | – |
| Апазіцыя | 1.4 | 2.9 | – |

Сярод іншых было зададзена і пытанне аб думцы наконт таго, што найбольш пагражае інтарэсам Беларусі, што шчыльна звязана з нацыянальнымі інтарэсамі. Як відаць, сёння, на думку апытаных, краіне найбольш пагражаюць страта незалежнасці, адсутнасць эканамічных рэформаў і аўтарытарны рэжым. Апошні многія прадстаўнікі недзяржаўных структур звычайна называюць першапрычынай усіх астатніх праблем. Цікава, што ніхто з іх сярод пагроз не назваў расколу грамадства, пра які гэтулькі гаворыцца апошнім часам і факту існавання якога ніхто, здаецца, ужо не адмаўляе.

**НІСЭПД**

# Царкоўныя рэпрэсіі

«За раскольніцкую дзейнасць» настаяцель Крыжаўзвіжанскай царквы ў вёсцы Клепачы Бераставіцкага раёну Ян Спасюк пазбаўлены сану святара Рускай праваслаўнай царквы. Такое рашэнне прынята на агульным сходзе духавенства Гродзенскай епархіі.

Да таго, як правесці сход, прадстаўнікі духавенства звярнуліся да іерэя з просьбаю «апамятацца і адступіць ад шалёных крокаў і беззаконных дзеянняў, якія ён чыніць» супроць царквы. Пасля пытанне пра «беззаконную дзейнасць іерэя, які ўпарціцца ў расколе, і пазбаўленне яго святарскага сану» было вынесена на агульны сход духавенства епархіі. Абсалютная бальшыня яго ўдзельнікаў выказалася за крайняе рашэнне. Супроць не прагаласаваў ніхто, толькі трое ўстрымаліся.

Сход пастанавіў таксама перадаць справу аб пазбаўленні іерэя сану на разгляд створанага ў адпаведнасці са статутам Рускай праваслаўнай царквы царкоўнага суду.

**М.П.**

# Кантралёраў – пад кантроль

*Беларускім прадпрымальнікам выйшла палёгка. У канцы мінулага тыдня Аляксандр Лукашэнка вырашыў, што трэба крыху абмежаваць дзейнасць ініцыятыўных правяральшчыкаў з розных кантрольных органаў.*



У выніку быў падпісаны ўказ аб новых рэдакцыях Палажэння аб Савеце па каардынацыі кантрольнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь і Парадку арганізацыі і правядзення праверак (рэвізіяў) фінансава-гаспадарчай дзейнасці і ўжывання эканамічных санкцыяў. Паводле гэтых дакументаў, цяпер рэвізія або планавая праверка аднаго і таго ж суб'екта прадпрымальніцкай дзейнасці – юрыдычнай асобы або індывідуальнага прадпрымальніка – можа адбывацца толькі раз на год.

Пры гэтым прадугледжваецца, што «пазапланавыя праверкі і рэвізіі могуць праводзіцца толькі па даручэнні прэзідэнта, Савету міністраў, Камітэту дзяржаўнага кантролю, Савету па каардынацыі кантрольнай дзейнасці, падатковых, праваахоўных і судовых органаў». Кіраўнікі кантрольных органаў мусяць звяртацца да пералічаных установаў па санкцыю на правядзенне паўторнай праверкі.

Аднак выключэнне робіцца для г. зв. сустрэчных праверак – калі неабходна праверыць дзейнасць партнёраў «сумнеўнага» суб'екта прадпрымальніцкай дзейнасці.

У афіцыйным каментары да прэзідэнцкага ўказу адзначаецца, што «новыя правілы... кантрольнай дзейнасці закліканыя забяспечыць стабільнасць у працы арганізацыяў і індывідуальных прадпрымальнікаў».

Галоўны пазітыў прынятага рашэння: чым меней будзе праверак, тым меней – карупцыі. Бо вядома, што добра палічаная і скіраваная ў патрэбным напрамку праверка можа не толькі паралізаваць працу соцень людзей на няпэўны час, але і сарваць падпісанне важных кантрактаў, што, у сваю чаргу, можа прынесці мільённыя страты прадпрыемству або прадпрымальніку. І ні для кога не таямніца, што нечаканы візіт правяральшчыкаў на фірму можа быць выкліканы і жаданнем апошніх нешта займець ад яе, і хітрыкамі канкурэнтаў. Будзем спадзявацца, што апетыты кантрольных органаў цяпер паменшацца – хаця б да прыстойных памераў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# «Неарганізаваны» гандаль будуць душыць

Міністэрства гандлю Беларусі мае намер «эканамічнымі метадамі» зніжаць тавараварот у неарганізаваным гандлі. «Мы лічым ненармальным, што трэцяя частка тавараабароту праходзіць у неарганізаваным гандлі, – заявіў першы намеснік кіраўніка міністэрства Міхаіл Свянціцкі 11 снежня на прэс-канферэнцыі ў Мінску. – Матэрыяльна-тэхнічная база стацыянарнага гандлю дазваляе забяспечваць агульны аб'ём тавараабароту, які маецца на сёння». У той жа час, паводле яго словаў, «гаворка ідзе не пра ліквідацыю неарганізаванага гандлю, а пра перавод яго на цывілізаваныя прынцыпы».

Свянціцкі прызнаў, што ў неарганізаваным гандлі цэны нашмат ніжэйшыя, чым у арганізаваным: «Праблема ёсць. Мы бачым, што ў неарганізаваным сектары – на рынках, у кіёсках – тавары значна таннейшыя». Аднак, на яго думку, гэта адбываецца таму, што «неарганізаваны і арганізаваны гандаль знаходзяцца ў няроўных эканамічных умовах». У якасці прыкладу першы намеснік міністра вырашыў прывесці большыя расходы магазінаў на ацяпленне ў зімовы перыяд, «тады як у кіёску прадавец у лепшым выпадку паставіць каларыфер магутнасцю паўтара кілавата».

Знос камерцыйных кіёскаў у гарадах Свянціцкі вызначыў як прэрагатыву мясцовых уладаў, аднак заявіў, што ён ведае пра планы Мінскага гарвыканкаму, «ва ўсякім разе, цэнтральныя магістралі і вуліцы расчысціць ад гэтых кіёскаў».

«Калі прымяняць рэзкія метады ў адносінах да неарганізаванага гандлю, можна выклікаць негатыўную рэакцыю пакупнікоў, таму тут будзе паступовы, эвалюцыйны падыход, са стварэннем роўных умоў гаспадарання», – заявіў Свянціцкі.

Паводле інфармацыі першага намесніка міністра, на сёння 37% прадпрыемстваў арганізаванага рознічнага гандлю з'яўляюцца стратнымі. Пратэрмінаваная запазычанасць канцэрну «Белдзяржхарчпрам» складае 1,2 млрд. рублёў, міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання – 1,7 млрд. Аднак гэтыя даўгі Свянціцкі лічыць невялікімі, паколькі месячны зварот гандлю набліжаецца да 50 млрд. рублёў.

**БелаПАН**

# Асіповіцкі сацыяльны эксперымент

Асіповіцкі раён Магілёўскай вобласці абраны месцам выпрабавання адзінай сістэмы адраснай сацыяльнай падтрымкі насельніцтва. Як паведаміла на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік упраўлення адраснай сацыяльнай дапамогі і гендэрных праблем міністэрства працы і сацыяльнай абароны Таццяна Шаметавец, выпрабаванне сістэмы будзе праходзіць на працягу 2002 году і ў выніку поспеху яе распаўсюдзяць на ўсю краіну пачынаючы з 2003 году.

Новая сістэма сацыяльнай падтрымкі прадугледжвае пераход ад прадастаўлення часткі льготаў да выплаты грашовых кампенсацый з адначасовай выпрацоўкай механізма ацэнкі даходаў і праверкі грамадзян, якія адчуваюць патрэбу ў дапамозе. «З-за таго, што субсідыі і льготы размяркоўваюцца па катэгорыях грамадзян незалежна ад іх даходаў, – сказала Шаметавец,– толькі нязначная частка сродкаў трапляе сапраўды маламаёмным. Паводле звестак абследавання хатніх гаспадарак, 33 працэнты сем'яў атрымліваюць сацыяльныя дапамогі, а 62 працэнты – сацыяльныя льготы. Часта дапамогу атрымліваюць сем'і, якія не праяўляюць ініцыятывы ў павышэнні свайго даходу, што спараджае сацыяльнае ўтрыманства. Між тым, узровень расходаў на сацыяльныя праграмы – 14 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту – неадэкватны эканамічнаму становішчу краіны».

Асіповіцкі раён абраны ў якасці выпрабавальнай пляцоўкі ў сувязі з яго тыповасцю (сацыяльныя паказчыкі мала адрозніваюцца ад сярэдніх па краіне), блізкасцю да Мінску і высокім узроўнем падрыхтоўкі сацыяльных работнікаў. Па выніках эксперыменту будуць падрыхтаваны змяненні ў нарматыўна-прававыя акты, якія рэгулююць прадастаўленне льгот.

У бліжэйшы час міністэрства працы і сацыяльнай абароны ўнясе на разгляд ураду праект пастановы аб правядзенні эксперыменту, аператыўнае прыняцце якога дазволіць пачаць выпрабаванне новай сістэмы сацыяльнай падтрымкі насельніцтва з 1 студзеня.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Беларусы запасяць даляры

На 28 мільярдаў 225,7 мільёна рублёў, ці на 10,4 працэнта павялічыліся ў лістападзе ўклады насельніцтва ў нацыянальнай валюце ў банках краіны. Валютныя дэпазіты выраслі за мінулы месяц на 12 мільёнаў даляраў ЗША (4,2 працэнта).

З пачатку году ўсе ўклады грамадзян (рублёвыя і ў замежнай валюце) у банках краіны павялічыліся амаль у 1,9 раза. У нацыянальнай валюце яны дасягнулі 299 мільярдаў 924,2 мільёна рублёў, а ў замежнай — 301,3 мільёна даляраў ЗША.

Нацыянальны банк таксама паведамляе, што, у адпаведнасці з артыкулам 121 Банкаўскага кодэксу Рэспублікі Беларусь, дзяржава гарантуе поўную захаванасць і выдачу зберажэнняў грамадзян як у нацыянальнай, гэтак і ў іншых валютах толькі ў ААБ «Беларусбанк» і ААТ «Белаграпрамбанк», а ў замежнай — ва ўпаўнаважаных банках па абслугоўванні дзяржаўных праграм. Да іх, у адпаведнасці з дэкрэтам прэзідэнта ад 20 красавіка 1998 года №4 «Аб гарантыях захаванасці сродкаў фізічных асоб у замежнай валюце, якія знаходзяцца на рахунках і ва ўкладах у банках Рэспублікі Беларусь», адносяцца вышэйзгаданыя «Беларусбанк» і «Белаграпрамбанк», а таксама «Белпрамбудбанк», «Белзнешэканамбанк», «Пріорбанк» і «Белінвестбанк» як правапераемнік «Белбізнесбанку» і «Беларускага банку развіцця». У выпадку банкруцтва ці прымусовай ліквідацыі банку ўкладчыкам вяртаюцца іх зберажэнні ў памеры не большым за адну тысячу даляраў ЗША.

**Аляксей АРЭШКА**

# СНД: ні жывая ні мёртвая

*Ужо 10 гадоў і свет, і мы жывем без звыклай для старшых пакаленняў абрэвіятуры «СССР» і саюзнай атрыбутыкі. Але цяпер жывем у СНД, пра што простыя людзі не ведаюць.*

Афіцыйная асобы ўслых гавораць, што Садружнасць паказала сябе аптымальнай формай развіцця, што ўдалося ў асноўным захаваць сувязі, якія склаліся паміж народамі, і ў пэўнай ступені змякчыць сацыяльныя і эканамічныя наступствы развалу адзінай дзяржавы, забяспечыць умовы для раўнапраўнага дыялогу.

Цяпер, на думку ідэолагаў СНД, наступае новы этап у жыцці Садружнасці, які абумоўлены тым, што працэсы «скасавання шлюбу» і «разборак» завершаныя і настаў час «збіраць камяні» – гэта значыць, паэтапна рэінтэгравацца.

Аднак краіны Садружнасці за мінулае дзесяцігоддзе стварылі супольных прадпрыемстваў у 10 разоў меней, чым з далёкім замежжам, а па аб'ёме інвестыцыяў розніца паміж «блізкімі» і «далёкімі» – болей чым у 100 разоў. Аб'ёмы гаспадарчых сувязяў паміж Расіяй і Азербайджанам, напрыклад, скараціліся ў 33 разы, з Арменіяй – у 25 разоў, з Малдовай і Узбекістанам – у 15 разоў. Варта прызнаць, што СНД як форма інтэграцыйнага аб'яднання не прадэманстравала ніводнага значнага дасягнення, якое можна супаставіць з вынікамі інтэграцыі ў ЕС. Усе разам 12 краінаў СНД, якія займаюць вялізную тэрыторыю, даюць толькі 3% ад сусветнага ВУП, у той час як ЕС дае 15%. Прычым з гэтых 3% львіная доля – 94% – прыпадае на пяць рэспублік (Расія, Казахстан, Украіна, Беларусь, Узбекістан).

Так што ў СНД фармуюцца не надта эфектыўныя інтэграцыйныя ўнутраныя групоўкі: Еўразійская эканамічная супольнасць, ГУУАМ, Саюз Беларусі і Расіі. СНД ператвараецца ў «клуб па інтарэсах», прычым інтарэсы краінаў-удзельніц моцна розняцца. Адкрыта выказваюцца ці патаемна выспяваюць іншыя інтэграцыйныя памкненні: Украіны – у ЕС, шэрагу рэспублік Закаўказзя і Сярэдняй Азіі – у *NATO*.

Гэтакія сённяшнія рэаліі СНД. Пацыент, як кажуць, хутчэй мёртвы, чым жывы. Аднак ідэалогія не згодная з такім дыягназам: яна разглядае Садружнасць як цалкам жыццяздольны арганізм і нават намагаецца задаваць яму ход развіцця. Ідэолагі СНД пазіраюць у бок ЕС, каб ухваціць хаця б драбіну досведу. Таму на глебу Садружнасці адтуль залятае насенне «наднацыянальнасці», «разнахуткаснай інтэграцыі», рэгулярных самітаў краінаў-удзельніц. Аднак усё гэтае насенне не прыжываецца на глебе СНД ці дае нейкія кволыя парасткі, надта мала падобныя да арыгіналу.

«Разнахуткасная інтэграцыя» ва ўмовах ЕС дазваляе найбольш прасунутым краінам развіваць новыя інтэграцыйныя ініцыятывы (накшталт валютнага саюзу), не чакаючы астатніх, і гэта стварае эфект лакаматыву, за якім сунецца ўвесь цягнік. У СНД ж атрымліваецца, што ўсе едуць не толькі з рознай хуткасцю, але і ў розныя бакі.

У СНД не знаходзіцца матываў, якія заахвочваюць да аб'яднання (як у ЕС – пабудаваць агульны рынак і больш шчыльны саюз народаў Еўропы). Няма, па сутнасці, і грамадскіх сілаў, якія б падштурхоўвалі б краіны СНД да інтэграцыі. Палітычныя эліты скіраваныя ў лепшым выпадку на сплачэнне асобных «кавалкаў» постсавецкай прасторы: для адных гэта Еўраазіяцкая эканамічная супольнасць, для іншых – ГУУАМ.

Некаторыя расійскія ідэолагі мяркуюць, што аб'ядноўчая палітычная сіла ў СНД усё ж есць – гэта рускамоўнае насельніцтва былых савецкіх рэспублік. Дасюль яна мала паказвала сябе, выступаючы пасіўным і часцяком сумуючым элементам палітычнага развіцця СНД. Аднак сваё слова гэты элемент, маўляў, яшчэ скажа, вось толькі пытанне – якое? Можа, захоча і проста банальнага сепаратызму, як было ў выпадку з семірэчанскімі казакамі.

Сярод расійскіх палітыкаў ужо гучаць заклікі тыпу: «Час ствараць у краінах СНД прарасійскае лобі!» Гэты небяспечны лозунг можна трактаваць як заклік да адраджэння славутых імперскіх амбіцыяў. Калі ўжо вырашылі забыць пра імперыю, дык не варта шукаць новыя спосабы падначаліць сваёй волі сяброў па Садружнасці. Гэта чыстай вады эгацэнтрызм у геапалітычным маштабе.

У СНД, відавочна, усе ўвайшлі добраахвотна. Але сённяшняя Садружнасць – не болей чым пустая абалонка, якая фармальна аб'ядноўвае 12 краінаў. Калі СНД і адбылася, то пакуль толькі як «ідэалагічная шырма, механізм аксамітнай дэзінтэграцыі Савецкага Саюзу».

Вядомы амерыканскі палітолаг, былы супрацоўнік Савету нацыянальнай бяспекі ЗША Эндру Вайс разважае гэтак: «У самой ідэі Садружнасці незалежных дзяржаваў было шмат фальшы, паколькі карысць ад яе бачыла толькі Масква, якая намагалася дамінаваць на былой савецкай прасторы. Да таго часу пакуль іншыя члены СНД не адчуюць, што супрацоўніцтва ў рамках СНД прыносіць ім карысць, гэтая арганізацыя застанецца мёртванароджанай структурай». Так што застаецца чакаць: ці развіццё эканомікі зблізіць краіны СНД, ці ў іх нарадзіцца палітычная сіла, гатовая да інтэграцыі «на рускіх пачатках». Гучыць прыкладна гэтак сама, як вядомая прыказка Хаджы Насрэдзіна «ці асёл памрэ, ці падышах сканае».

**Андрэй МІЛАЎЗОРАЎ**

ЭКСПРЭС

# Прагнозы, пазыкі, разлікі

## Праца камерцыйных банкаў сёлета адчувальная

Аб'ём крэдытавання эканомікі беларускімі камерцыйнымі банкамі ў нацвалюце склаў у пачатку мінулага месяца 1,132 трлн. беларускіх рублёў, што на 71,4% больш за аналагічны паказчык пачатку году, пра гэта гаворыцца ў справаздачы органаў грашова-крэдытнага рэгулявання Беларусі. З агульнага аб'ёму крэдытаў на юрыдычных асобаў прыйшлося 878 млрд.бел.руб., на насельніцтва – 230,7. Астатняя частка – міжбанкаўскія ды іншыя крэдытныя аперацыі. Структура крэдытаў суб'ектам гаспадарання выглядае наступным чынам: кароткатэрміновыя – 67%, доўгатэрміновыя – 25,3%, факторынгавыя, лізінгавыя і вексельныя аперацыі – толькі 7,7% ад крэдытных рэсурсаў. Аб'ём крэдытавання за кошт камерцыйных банкаў у замежнай валюце павялічыўся за 10 месяцаў на 15,4% – да 803,1 млн. даляраў (суб'ектам гаспадарання – 777,7 млн., фізічным асобам – 0,3 млн.)

## «Праектныя» грошы Еўрабанку

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця ў 2002 годзе выдаткуе на шэраг праграм краінаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы і СНД каля 2,9 млрд. еўра. Пра гэта паведаміла першы віцэ-прэм'ер ЕБРР Норын Дойл. З яе словаў, дадзены аб'ём сродкаў вызначаны з улікам запаволення тэмпаў росту сусветнай эканомікі. Яшчэ яна дадае, што ў 2002 годзе ЕБРР перавыканаў праграму па фінансаванні праектаў у вышэйзгаданых рэгіёнах. Замест запланаваных у гэтым годзе інвестыцый памерам 2,7 млрд. еўра банк накіраваў туды каля 3 млрд. (92,5% з іх было інвеставана ў Расію).

## Касьянаў жаліцца на эканамічныя паказчыкі па СНД

Узаемны тавараварот краін СНД за апошнія 10 гадоў скараціўся ў 3 разы. Пра гэта паведаміў прэм'ер-міністр РФ Міхаіл Касьянаў у адным са сваіх апошніх выступаў. Праз гэта, паводле ягоных словаў, змянілася структура гандлю. Гэткім чынам доля паліва і сыравіны павялічылася ў 4 разы і дасягнула паловы ўсяго тавараабароту. Разам з тым зменшыліся аб'ёмы гандлю машынамі і абсталяваннем. Другая праблема эканомік краін СНД, на ягоную думку, – тое, што асноўныя фонды ўсіх краін садружнасці прыйшлі да крытычнага стану (іх вычарпанасць складае ў сярэднім 70%). Яшчэ прэм'ер заўважыў, што заробкі ў большасці краін СНД складаюць менш за 100 даляраў – паказчык, ніжэй якога, паводле сусветных стандартаў, пачынаецца рыса беднасці.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Дух вуліц

*Перабіраючы ад няма чаго рабіць старыя рэчы, натрапіў на мапу Мінску ўзору 1975 году – тады мяне яшчэ на свеце не было, – разгарнуў і дзеля забаўкі тыцнуў пальцам. Выпала на вуліцу Максіма Горкага. Цяпер гэта Максіма Багдановіча. Пытанне пра тое, якая з гэтых назваў гучыць для менчукоў натуральней, трэба думаць, рытарычнае. А для многіх жыхароў сталіцы малодшых пакаленняў вуліцы Горкага дык і ўвогуле ніколі не існавала.*

Напачатку 90-ых адбыўся цэлы шэраг удалых перайменаванняў з мэтай дэідэалагізацыі тапанімікі беларускай сталіцы. У палажэнні ад 1992 году аб перайменаванні вуліц і пляцаў Мінску чукі, што жывуць на адным канцы гораду ў другім гадамі не бываюць)! Але ж у цэнтры Мінску часта бавяць час многія, і замежнікі-турысты таксама. На Савецкай, Камуністычнай, Першамайскай, Рэвалюцыйнай, Камсамольскай, Інтэрнацыянальнай, на Кірава, Свярдлова, Леніна, Маркса, Энгельса, на Кастрычніцкай плошчы... А на станцыі метро «Плошча Незалежнасці» яшчэ і надпіс «Плошча Леніна» застаўся вісець. Што да тапанімічных «ляпаў» беларускай сталіцы, то ўжо анекдотам стала існаванне ў Мінску, прычым у адным раёне, вуліц, названых у гонар Цішкі Гартнага і Зміцера Жылуновіча, што ёсць псеўданімам і сапраўдным прозвішчам аднаго чалавека. Праўда, у Мінгарвыканкаме даводзяць, што Цішкі Гартнага ды завулкаў і паловы не застанецца. Якая самабытнасць Мінску засведчана вуліцамі, да прыкладу, Ангарскай, Беламорскай, Енісейскай, газет «Правда» і «Известия». Ужо не кажучы пра такія дурныя назвы, як Калектарная і Экскаватарная, і пра процьму тутэйшых і не толькі герояў рэвалюцыі 1917 году і савецкіх кіраўнікоў. У гэтым мапа беларускай сталіцы дужа падобная да энцыклапедыяў, што выдаваліся ў мінулым стагоддзі. У палажэнні, між іншым, гаворыцца, што вуліцы ўласнымі імёнамі могуць называцца толькі ў выключных выпадках. Тое самае тычыцца і замежнікаў. Апрача таго, у іхны гонар вуліцы могуць называцца толькі калі іхнае жыццё «непасрэдна звязана з Мінскам ці Беларуссю». Колькі ў нас такіх за вушы прыгушэвіча.



пра гэта так проста і пісалася. Тады з'явіліся ці былі вернутыя з забытае гісторыі гораду блізу дзесятка назваў, якія цяпер гэтак праніклівa і прыгожа ўдаюцца ў вушы і на вочы з мікрафону кіроўцы аўтобуса ці з шыльды на будынку: Багдановіча, Кальварыйская, Ракаўская, Раманаўская слабада, Гарадскі вал, плошча Незалежнасці, праспект Скарыны...

Але з сярэдзіны 90-ых переназыўная хваля, як і многае іншае з нацыянальнага адраджэння, рэзка змізарнела. Беларуская сталіца, у тым ліку і ейны цэнтр, так і засталася амаль уся ў савецкіх недарэчных і безаблічных вулічных назвах. Вельмі мала прыемнага беларускага для вуха і сэрца. Хай бы то толькі ўскраіны (там менасамрэч ужо даўно пераназваная ў Трасцянецкую, адно што проста шыльды рукі не даходзяць памяняць. Але і гэта гонару гарадскім службам не робіць.

У прэамбуле да палажэння аб пераназыванні вуліц і плошчаў Мінску адзначаецца, што «ў назвах вуліц і пляцаў засведчана памяць народа. Менавіта таму тапанімія з'яўляецца важным сродкам захавання яго свядомасці». У самім палажэнні гаворыцца, што сталічная тапанімія мусіць адлюстроўваць «гістарычную, геаграфічную, нацыянальную, сацыяльную, гаспадарчую і культурную адметнасць нашага гораду». Калі прытрымліваца гэтага прынцыпу, то ад цяперашніх назваў болей як 1 300 мінскіх вуліц, плошчаў цягнутых назваў і колькі неўшанаваных годных суайчыннікаў?! На ўсіх «шчорсаў» хопіць.

Што праўда, толькі за апошні год у сталіцы з'явіліся вуліцы паэта Янкі Лучыны, этнографа Паўла Шпілеўскага, паэта Уладзіслава Сыракомлі, Ігуменскі тракт (вядомы яшчэ з XVIII стагоддзя). Але ж гэта вынік не перайменаванняў, а называння новых вуліц, прычым на ўскраіне гораду. Такім чынам з'явіўся мікраён Лошыца. Тамсама атрымала жыццё вуліца Прушынскіх, графаў, што заснавалі Лошыцкі парк. Тапанімічная навінка ў цэнтральнай частцы Мінску толькі адна: плошчу на скрыжаванні вуліц Цэткін, Няміга і праспекту Дзяржынскага назвалі плошчай Францішка Багушэвіча.

Сакратарка адмысловай камісіі па перайменаванні вуліц і пляцаў беларускай сталіцы Марыя Станкевіч гаворыць, што камісія, куды разам з мінгарвыканкамаўскімі чыноўнікамі ўваходзяць намеснік дырэктара Скарынаўскага цэнтру Адам Мальдзіс і вядомыя даследчыкі гісторыі Мінску Захар Шыбека і Уладзімір Дзянісаў, мае намер ініцыяваць у наступным годзе некалькі важных тапанімічных захадаў. Найперш каб усе вулічныя аншлагі (шыльды) сталі беларускамоўнымі. Другое – аднавіць і рэалізаваць прыняты яшчэ ў 1993 годзе і забыты праект па перайменаванні гістарычнага цэнтру Мінску. Ініцыяваць можна, але галоўнае – як адрэагуе на гэта не толькі мінская мэрыя, але і найвышэйшае кіраўніцтва краіны.

Той праект прадугледжваў вяртанне двум дзесяткам вуліц у цэнтры Мінску старажытных назваў XV-XVIII стагоддзяў. Так, плошча Свабоды, якая ў XX стагоддзі мела яшчэ назоў пляц Волі, а ў XIX-ым за Расійскай Імперыяй была Саборнай, мусіла стаць Высокім Рынкам, як тое было 400 гадоў таму. Інтэрнацыянальная дзялілася б на дзве вуліцы – Валоцкую і Зборавую (у XIX стагоддзі гэта былі адпаведна Хрышчэнская і Праабражэнская). Рэвалюцыйную прапаноўвалася пераназваць у Койданаўскую, Камсамольскую (Багадзельную) – у Феліцыянаўскую (у гонар заступніка гораду Феліцыяна), Леніна (Губернатарскую) – у Францішканскую, Энгельса (Петрапаўлаўскую) – у Дамініканскую, Герцэна (Мала-Манастырскі завулак) – у Бернардынскую, Гандлёвую – у Зыбіцкую, што была вядомая яшчэ ў XV стагоддзі. Вуліцы Куйбышава пасавала б назва Плябанская, Кісялёва – Старажоўская, а цяперашняй Старажоўскай – Барысаглебская, плошчы Парыжскай камуны – Траецкая гара, плошчы 8 сакавіка – Нізкі рынак, Валадарскага – братоў Луцкевічаў, Кірава – Гарэцкага, Свярдлова – Ластоўскага.

У тапанімічнай камісіі даводзяць, што часавыя і фінансавыя выдаткі на гэта не такія ўжо і вялікія, як прызвычаіліся пужаць народ працiўнікі нацыянальна афарбаваных назваў вуліц. У гэтым раёне сталіцы не так багата жылых дамоў – усё больш розныя дзяржаўныя ўстановы ды фірмы, якім дакументальную бюракратыю, звязаную з перайменаваннем вуліц, прайсці будзе няцяжка.

Затое ў Мінску дадасца духу гісторыі і беларускасці, а гэта ўжо ніякімі грашыма не вымяраецца.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Каштоўны статус

Тэатр юнага гледача апынуўся ў спісе сталічных архітэктурных спарудаў (разам з Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі, Беларускай акадэміяй музыкі і яшчэ 8 аб'ектамі), якім нядаўна быў прысвоены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Будынак ТЮГу паўстаў у 1956 годзе ў выніку рэканструкцыі сталічнага палаца піянераў і школьнікаў, узведзенага яшчэ да вайны.

Зараз у рэпертуар ТЮГу ўваходзяць 18 дзеючых спектакляў. Гэты сезон дадасць у яго некалькі спектакляў. Як распавёў мастацкі кіраўнік тэатра Андрэй Андросік, нядаўна тут прайшлі прэм'еры «Гісторыя кахання паласатага ката і сеньёрыны Ластаўкі» паводле Жоржы Амаду і адноўленага «Ката ў ботах». Напярэдзе сёлета яшчэ тры прэм'еры – «Рыцар Ордэна сланечнікаў», «Срэбраная табакерка», «Паліяна».

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Марка Скарыны

Знак беларускага асветніка Францішка Скарыны з'явіўся на паштовай марцы Беларусі.

Як паведамілі БелаПАНу ў выдавецкім цэнтры «Марка» рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання «Белпошта», марка наміналам тысяча рублёў і накладам 250 тысяч асобнікаў нядаўна выйшла з друку ў стандартным выпуску знакаў паштовай аплаты. Мастак Віктар Сташчанюк выявіў на ёй злучэнне Сонца з Месяцам, вядомае як знак Скарыны. Дарэчы, знак з'яўляецца цэнтральнай часткай афіцыйнай сімволікі грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны». Сімволіка ТБМ выкарыстоўваецца ў афармленні ўсёй друкаванай прадукцыі, якая выдаецца грамадскім аб'яднаннем.

**Марат ГАРАВЫ**

# У Мінску міжнародны сімпозіум філолагаў

У праўленні Саюза беларускіх пісьменнікаў у Мінску адбылося чарговае паседжанне аргкамітэту па падрыхтоўцы міжнароднага сімпозіума «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі».

Вырашана, што сустрэча вучоных адбудзецца ў сталічным Доме літаратара 9-10 ліпеня 2002 года. Мяркуецца, што нароўні са спецыялістамі і дзеячамі нацыянальных культур многіх краін свету ў сімпозіуме прыме ўдзел генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каісіра Мацуура.

Сярод праблем, якія будуць разгледжаны на сустрэчы, – рэалізацыя правоў чалавека на нацыянальную мову і культуру, вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ва ўмовах глабалізацыі, а таксама заканадаўчы аспект развіцця нацыянальных моў.

Старшыня нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Генадзь Счасны прапанаваў накіраваць запрашэнні для ўдзелу ў сімпозіуме вядомым вучоным-філолагам. «Для нас асабліва важны вопыт Бельгіі, Ірландыі, Славакіі, Славеніі і Уэльса (Вялікабрытанія), дзе народы змаглі захаваць і абараніць свае нацыянальныя мовы», – падкрэсліў Счасны.

Доктар гісторыі Леанід Лыч прапанаваў удзельнікам сімпозіума азнаёміцца з сітуацыяй з нацыянальнымі мовамі ў рэгіёнах Расіі. «Над беларускай мовай навіс дамоклаў меч знішчэння. Я думаю, што беларусам не ўсё роўна, які лёс чакае іх родную мову ва ўмовах будучага саюзу з Расіяй», – сказаў Лыч.

Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс прапанаваў падчас семінара ўвекавечыць памяць ураджэнца Мінску, вядомага дзеяча сусветнай культуры Ежы Гедройца. На будынку сталічнага касцёла святой Тройцы, дзе быў хрышчоны Ежы Гедройц, вучоны прапанаваў устанавіць мемарыяльную дошку.

Каменціруючы для БелаПАН вынікі паседжання, старшыня грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Алег Трусаў адзначыў, што ініцыятарам акцыі выступіла ТБМ. «Нашу прапанову падтрымалі Саюз беларускіх пісьменнікаў, міністэрствы інфармацыі, адукацыі і культуры, нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА, Беларускі дзяржуніверсітэт, Беларускі дзяржпедуніверсітэт імя Максіма Танка, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ды іншыя.

**Марат ГАРАВЫ**

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 14 снежня

**1546**. Нарадзіўся дацкі астраном Ціха Браге, які (разам з І.Кеплерам) давёў, што планеты круцяцца вакол Сонца не па коле, а па выцягнутых арбітах. Кароль Фрэдэрык II падарыў навукоўцу востраў для абсерваторыі.

**1586**. Праз два дні пасля смерці Вялікага князя Стэфана Баторыя прыдворныя лекары Мікалай Буцэл і Шымон Сімоніус, якія спрачаліся аб прычынах смерці гаспадара, упершыню на тэрыторыі ВКЛ анатамiравалі труп. Лекары пагадзіліся, што Баторый памёр ад сардэчнае недастатковасці і пнеўманіі, якую ён «падхапіў» падчас палявання на дзікоў. Рэшткі князя паўтара году знаходзіліся ў Гародні, але потым, насуперак ягонай волі, былі ўсё ж адвезеныя ў кракаўскі Вавельскі замак (Баторый быў і польскім каралём).

**1911**. Нарвежскі падарожнік Раальд Амундсен першы наступіў на Паўднёвы полюс зямлі.

**1946**. У Нью-Йорку была заснаваная штаб-кватэра ААН.

**1970**. У Гданьску, Гдыні і Шчэціне пачаліся страйкі і масавыя дэманстрацыі супраць рэзкага падвышэння цэнаў на прадукты харчавання, вугаль і вопратку. У бойках з жаўнерамі і паліцыяй каля ста рабочых загінулі, больш як 1 100 чалавек былі параненыя. Галава польскае дзяржавы Уладзіслаў Гамулка быў вымушаны пайсці ў адстаўку.

### 15 снежня

**1791**. У ЗША пачаў дзейнічаць Біль аб правах — 10 паправак да Канстытуцыі, якія гарантавалі асноўныя грамадзянскія свабоды (сумлення, слова і друку, сходаў і валодання асабістай зброяй).

**1916**. Умоўнай перамогаю французаў (адваявалі некалькі квадратных кіламетраў) завяршылася шматмесячная бітва пры Вердэне. У бясконцых атаках і контратаках загінулі 364 тысячы французскіх і 338 тысячаў нямецкіх салдатаў.

**1961**. Суд у Іерусаліме прыгаварыў Адольфа Эйхмана, аднаго з кіраўнікоў нацысцкай «зачысткі» Еўропы ад габрэяў ды іншых непажаданых элементаў, да пакарання смерцю на шыбеніцы. Пасля вайны Эйхман хаваўся ў Аргентыне, але быў знойдзены і выкрадзены ізраільскімі спецслужбамі.

**1964**. Канадскі парламент зацвердзіў у якасці афіцыйнага сімвалу краіны кляновы ліст.

**1981**. Афганскі лідэр Бабрак Кармаль уручыў у Крамлі ахвочаму да бліскучых цацак Леаніду Брэжневу найвышэйшую ўзнагароду Афганістану — ордэн «Сонца свабоды».

**1986**. 28 інтэлігентаў, у тым ліку В.Быкаў, С.Станюта, Л.Шчамялёў, Р.Барадулін і Я.Брыль, накіравалі М.Гарбачову ліст, у якім яны прапаноўвалі рэанімаваць беларускую мову. Кіраўніцтва СССР на гэтую ініцыятыву не адрэагавала.

### 16 снежня

**1866**. Нарадзіўся заснавальнік абстракцыянiсцкага жывапісу (1910) Васіль Кандзінскі. Да 30 гадоў займаўся этнаграфіяй і палітэканоміяй, а потым вырашыў прысвяціць сябе мастацтву і з'ехаў у Мюнхен, дзе заснаваў адну з першых авангардных суполак «Сіні вершнік».

**1920**. Землятрус у кітайскай правінцыі Ганьсу загубіў 180 тысячаў чалавек. Яшчэ 20 тысячаў неўзабаве памерлі ад холаду: не знайшлі, дзе прытуліцца.

**1925**. У Вільні прайшоў Усяпольскі з'езд мусульманаў (амаль усе яны жылі ў Заходняй Беларусі). З'езд абраў муфтыя (ім стаўся доктар арыенталістыкі Я.Шынкевіч) і абвесціў аўтаномію духоўнага жыцця беларускіх татараў ад Таўрыдскага муфтыяту з Сімферопалю.

**1944**. Загінуў амерыканскі кампазітар і трамбаніст, аўтар знакамітай рэчы «Чатанута чучу» Глен Мілер: самалёт, на якім ён ляцеў з Англіі ў Францыю, бясследна знік.

**1971**. Капітуляцыяй пакістанскага войска завяршылася вайна за незалежнасць Бангладэш. Шматпакутнай краіне, якая дагэтуль застаецца адной з найбяднейшых у свеце, прысвяціў песню «Бангладэш» Джордж Харысан (апроч таго, наладзіў у падтрымку бангладэшцаў, што галадаюць, першы ў гісторыі рок-музыкі дабрачынны канцэрт).

**1986**. Кіраваць Казахстанам замест Д.Кунаева быў прызначаны расійскі Г.Колбін. У Алма-Аце прайшла першая на тэрыторыі СССР у эпоху «перабудовы» дэманстрацыя пратэсту нацыянальна свядомае моладзі.

### 17 снежня

**1778**. Нарадзіўся англійскі хімік Гемфры Дэйві, які адкрыў калій, натрый і стронцый, а таксама вынайшаў бяспечную лямпу для шахцёраў.

**1794**. Па ўсіх цэрквах ВКЛ быў абвешчаны царскі маніфест пра «вызваленне Літвы ад мяцежнікаў». Падзячныя набажэнствы спраўляліся чатыры дні запар адначасова з прынясеннем вернападданае прысягі ўсімі саслоўнымі станамі.

**1926**. Перапіс насельніцтва ў тагачаснай БССР налічыў 4 млн. 983 тыс. чалавек.

**1956**. У сувязі з узбуйненнем адміністрацыйных раёнаў у Беларусі 11 з іх былі скасаваныя.

### 18 снежня

**1856**. Нарадзіўся англійскі фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1906 г. Джозеф Джон Томсан, які адкрыў электрон. Заўвага Леніна наконт гэтага адкрыцця: «Электрон такі ж невычарпальны, як і атам» — пакуль не пацвердзілася.

**1876**. У Пецярбургу на плошчы ля Казанскага сабору прайшла першая ў Расіі палітычная дэманстрацыя рабочых і інтэлігенцыі, якія патрабавалі абмежавання царскай улады.

**1921**. Нарадзіўся савецкі комік Юрый Нікулін.

**1956**. Японію прынялі ў ААН.

**1981**. Албанскі прэм'ер-міністр Мехмет Шэху скончыў жыццё самагубствам.

### 19 снежня

**1686**. Рабінзон Круза з'ехаў са свайго вострава, на якім пражыў 28 гадоў, 2 месяцы і 19 дзён.

**1851**. Памёр найбольш вядомы англійскі мастак Джозеф Тэрнер, папярэднік французскіх імпрэсіяністаў. У апошнія гады хаваўся ад славы і свету, жыў пад чужым імем. Найбольш заможны мастак таго часу, Тэрнер пакінуў у спадчыну сваё багацце калегам-жабракам, але сваякі праз суд тыя грошы забралі.

**1906**. Нарадзіўся Леанід Брэжнеў, генеральны сакратар ЦК КПСС у 1964—82 гг. Пры канцы 1920-х працаваў землямерам пад Воршаю.

**1936**. У Берліне была заснаваная антыфашысцкая суполка «Нямецкі народны фронт». У назве чуецца нешта знаёмае.

**1986**. Акадэмік Дзмітрый Сахараў вярнуўся з горкаўскае ссылкі.

**1991**. Вярхоўны Савет Беларусі абвесціў нерабочымі днямі галоўныя каляндарныя святы праваслаўнай і каталіцкай канфесіяў.

### 20 снежня

**1936**. У Шклоўскім раёне ўлады зачынілі апошнюю з 25 цэркваў — гэта быў рэкорд.

**1954**. Мінскі радыёзавод выпусціў першыя тэлевізары «Беларусь».

**Падрыхтаваў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ФБР супраць расійскіх піратаў

Галоўная мішэнь глабальнай аперацыі па барацьбе з камп'ютэрным пірацтвам – хакерская арганізацыя расійскага паходжання *DrinkOrDie*.

Як паведамляе *BBC News*, агенты федэральных службаў ЗША правялі рэйды ў 27 гарадах краіны і канфіскавалі больш за 100 хакерскіх камп'ютэраў. Таксама было праведзена 19 вобшукаў у Аўстраліі, Канадзе, Фінляндыі і Англіі. Англійская паліцыя арыштавала шэсць чалавек па абвінавачанні ў змове з мэтаю махлярства. Як заяўляюць афіцыйныя асобы, адбудуцца і далейшыя арышты.

Затрыманых могуць абвінаваціць у парушэнні аўтарскіх правоў і незаконным распаўсюджанні чужой інтэлектуальнай уласнасці. Гэта пагражае ім турэмным зняволеннем тэрмінам да 5 гадоў.

Эксперты па праблемах камп'ютэрнай бяспекі лічаць, што арганізацыя *DrinkOrDie*, заснаваная ў Маскве ў 1993 годзе, – адна з самых паспяховых і актыўных у свеце. Так, яшчэ ў 1995 годзе *DrinkOrDie* зазнала шырокую вядомасць у колах хакераў, пачаўшы рэалізацыю *Microsoft Windows 95* за два тыдні да афіцыйнага выхаду гэтай аперацыйнай сістэмы. Як паведамляецца, кіраўнікі – два чалавекі, адзін з іх нехта *ForceKill*. Ён, на думку агентаў, – «адзін з першых узломшчыкаў праграмаў у свеце». Лідэры арганізацыі жывуць у ЗША і Аўстраліі. Усяго ў арганізацыю ўваходзяць ад 8 да 10 буйных хакерскіх групаў, якія агулам налічваюць каля 1 500 чалавек.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

# Віртуальны музей антычнасці



Італія плануе стварыць віртуальны музей антычнасці. Міністэрства культуры Італіі паведаміла, што ў працы паўдзельнічае Карла Рамбальдзі – знакаміты майстар спецэфектаў, уганараваны трыма «Оскарамі» за працу над фільмамі «Кінг-Конг», «Чужы» і «Іншапланецянін». Арганізатары разлічваюць завершыць свой пілотны праект цягам 4 месяцаў.

«Мы плануем выкарыстаць самыя сучасныя тэхналогіі, каб дапамагчы італьянцам і замежным турыстам напоўніцу ацаніць нашу гістарычную і культурную спадчыну. Палова з тых, хто наведвае Італію, праводзяць па адным дні ў Венецыі, Фларэнцыі і Рыме, а гэтага недастаткова, каб азнаёміцца з нашай гісторыяй. Цяпер жа яны змогуць убачыць нашмат болей», – кажа каардынатар праекту Джаванні Негры.

Музей не толькі прапануе наведвальнікам дэталёва вывучыць Калізей і руіны Пампеяў, але яшчэ пакажа паўсядзённае жыццё старажытнарымскіх гарадоў, а таксама бойкі гладыятараў. Апроч таго, тут можна будзе азнаёміцца з творамі мастацтва, якія не экспануюцца ў даступных для публікі галерэях.

**Reuters**

# Амерыканец заснаваў у Празе Музей камунізму

У цэнтры Прагі ўзнік першы чэшскі Музей камунізму. Не папярэдзіўшы гісторыкаў, палітвязняў і працаўнікоў музеяў, выставу ўсталяваў у палацы «Саварын» на Пржыкопе за свае грошы амерыканец Глен Спікер, вядомы як рэстаўратар. «Хацелі паказаць падмурак той пагрозы», – сказаў адзін з куратараў гэтай выставы журналіст Віктар Шлайхарт. «Гэта праект для замежнікаў. Больш думалі пра стварэнне атмасферы, чым пра стварэнне сур'ёзнай экспазіцыі. У музей у акадэмічным разуменні турысты не пайшлі б», – дадаў ён напаследак.

Журналіст не хоча, каб з жахаў камунізму была створана прывабнасць. Музей пра камуністычнае мінулае мае адзіны ўваход са знакамітым казіно і сталоўкай *McDonalds*. Адразу па ўваходзе чакаюць гіганцкі Карл Маркс ды бюст У.І.Леніна. Драматург Ян Каплан падзяліў выставу на тры часткі: мары, рэальнасць і начныя матылі камунізму.

Музейныя адмыслоўцы даведаліся пра музей толькі з *Lidovych novin*, і першыя навіны выклікалі лёгкі недавер. «Ніхто нас не запрасіў да супрацоўніцтва і ніхто нас нават не паінфармаваў. Праграма музея разам з лекцыямі і праглядамі фільмаў вельмі шырокая, але ёсць пытанне: хто будзе ўсё гэта навукова абгрунтоўваць і як ён будзе прадстаўляць камуністычную мінуўшчыну», – адзначае старшыня канфедэрацыі палітычных вязняў Станіслаў Дробны. Пра праект не ведала і бальшыня гісторыкаў: «Чуем пра гэта ўпершыню. Прыватных экспазіцый у Празе шмат, але ніводнай пра камунізм. Але ж сёння за грошы можна ўсё», – кажа Іржы Коціян з Інстытуту судовай гісторыі Акадэміі навук.

Глен Спікер з 450 квадратнымі метрамі выставачнай плошчы ў палацы ўсіх апярэдзіў. Прагляд каштуе 130 крон (3,5 даляры). «Ведаю, што ёсць у тым крыху іроніі, бо Музей камунізму ўзнік на капіталістычным падмурку. Арэнда тут сапраўды дарагая. Я незнаёмы з Гавелам ці іншым важным чалавекам, які б мог падтрымаць маю ідэю. Але за той доўгі час жыцця ў Чэхіі я навучыўся бізнесу», – сказаў Спікер. Экспанаты Спікер набыў, пазычыў альбо арэндаваў. Упарадкаваў іх чэшскі эмігрант, які жыве ў Лондане, дакументаліст Ян Каплан. У першай частцы экспазіцыі, прысвечанай камуністычным марам, наведвальнікаў вітае касманаўт ды знішчальнік МіГ-21. Крыху далей размешчана кампазіцыя «Змаганне кіраўніцтва за перавышэнне плану». Да месца школьны клас з рознымі ідэалагічнымі матэрыяламі. Камуністычную рэалію набліжаюць пустыя паліцы крамы ў другой частцы. Спартовыя прыстасаванні нагадваюць, як мінулы рэжым выкарыстоўваў з мэтай прапаганды дасягненні спартоўцаў. Нянавісць камуністаў да амерыканцаў паказваюць сродкі грамадзянскай абароны ды каларадскі жук. Начныя матылі камунізму прадстаўлены кабінетам *StB* (чэхаславацкі аналаг КГБ) з манументальным металічным сярпом і молатам.

**«Lidove noviny» 12.12.2001**

# Гіне Свіцязь

*У бядзе яшчэ адзін прыродны аб'ект у Беларусі. Гэта легендарнае ўвершаванае Адамам Міцкевічам возера Свіцязь на Наваградчыне. Яно плытнее і забруджваецца. Сацыяльна-экалагічным саюзам «Чарнобыль», арганізацыяй «Экадом» і «зялёнымі» Наваградчыны створаны камітэт па выратаванні Свіцязю.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

У летку эколагамі туды была наладжаная адмысловая экспедыцыя з мэтай вывучэння тамтэйшай экалагічнай сітуацыі. Маніторынг забруджанасці возера праводзіць лабараторыя возеразнаўства Белдзяржуніверсітэту.

Свіцязь знаходзіцца ў двух дзесятках кіламетраў на поўдзень ад Навагрудку. Возера невялікае: найбольшая глыбіня яго – 15 метраў, даўжыня – 1,7 кіламетра, шырыня – 1,5. Але яно вельмі маляўнічае, і сюды ўвесь час прыязджаюць адпачываць людзі. Менавіта чалавечы фактар стаў адной з прычынаў таго, што славутае возера церпіць экалагічную бяду. Летнімі месяцамі на ягоных берагах штодня бывае да 4 тысяч аўтамабіляў. Як распавёў старшыня сацыяльна-экалагічнага саюзу Васіль Якавенка, «людзей тут паболела апошнімі гадамі. Беларусы збяднелі – і Чорнае мора сабе дазволіць не могуць. Таму часцей адпачываюць на радзіме. Але ж трэба неяк палюдску карыстацца сваімі прыроднымі рэсурсамі. Найперш трэба абмежаваць паток людзей і асабліва машын на Свіцязь».

Возера знаходзіцца на балансе Беларускай чыгункі, якой яно аддадзенае ў арэнду на 10 гадоў. Менавіта чыгунка і мусіць ратаваць возера. Найперш, трэба зрабіць так, каб машыны з «курортнікамі» не пад'язджалі да самае вады. А значыць, дзесьці непадалёк Свіцязі мусяць быць арганізаваныя стаянкі. Ходзяць чуткі, што беларуская чыгунка наважылася будаваць на тэрыторыі Свіцязянскага заказніку лецішчы, што, натуральна, павялічыць наплыў людзей на возера, – і гэта непакоіць эколагаў.

Небяспечна і тое, што Свіцязь плытнее, прычым імкліва. За адно лета цягам некалькіх тыдняў яно памялела аж на 70 сантыметраў. Чаму – наконт гэтага ў эколагаў загадкі. Праўда, спецыялісты лабараторыі возеразнаўства БДУ супакойваюць «зялёных» версіяй, што Свіцязь, хутчэй за ўсё, перасыхае так перыядычна, а потым узровень вады ўзнаўляецца. Калі гэта праўда, то многае будзе залежаць ад колькасці ападкаў і снежнасці зімы, бо сюды ніякіх рэчак не ўцякае, і вада ў возеры папаўняецца толькі за кошт гэтага і падземных крыніц.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Яны карыстаюцца беларускай зброяй

## Беларусь на сусветных рынках гандлю зброяй

З 1996 году Беларусь адыгрывае важную ролю на сусветных збройных рынках, цвёрда займаючы месца ў першай дзесятцы. Не будучы значным вытворцам, краіна з'яўляецца адным з найважнейшых пасярэднікаў падчас гандлю расійскім узбраеннем. Дадзены гандаль – адна з галоўных крыніцаў паступлення валюты ў Беларусь. Па звестках Стакгольмскага інстытуту сусветных даследаванняў (*SIPRI*), Беларусь у 2000 годзе прадала зброі на 498 млн. даляраў і заняла такім чынам 6-е месца ў рэйтынгу экспарцёраў узбраенняў. Варта адзначыць, што *SIPRI* прааналізаваў толькі пацверджаныя кантракты. Эксперты лічаць, што насамрэч Беларусь зарабіла нашмат болей. Грошы ад продажу зброі трапляюць у спецыяльны фонд прэзідэнта, стабілізацыйны фонд валютных укладаў і на рахункі «Беларусбанку». Гэтыя прыбыткі вылучаны з бюджэту, а кантроль над імі ажыццяўляе прэзідэнт.

## Крыніцы паходжання ўзбраення

Зброя, якую прадае Беларусь, паходзіць з дзвюх крыніцаў. Па-першае, гэта запасы ваеннай тэхнікі, што засталіся ў краіне пасля распаду СССР. Галоўным чынам гэта старое цяжкае ўзбраенне (танкі, БМП ды інш.), стралковая зброя, элементы некаторых вайсковых сістэмаў, амуніцыя і міны. Па-другое, Беларусь выступае як пасярэднік падчас продажу расійскіх найноўшых узбраенняў, такіх, як сістэмы супрацьпаветранай абароны, самалёты ды верталёты. Апроч таго, беларускія фірмы, найперш рамонтныя заводы ў Баранавічах і Віцебску, аказваюць паслугі па мадэрнізацыі тэхнікі і абслугоўванні.

Для Расіі Беларусь з'яўляецца выгадным пасярэднікам у гандлі зброяй з дзяржавамі, на якія распаўсюджваецца эмбарга. Беларусь як краіна, што знаходзіцца ў ізаляцыі на міжнароднай арэне і не лічыцца з меркаваннем іншых, можа сабе дазволіць такія кантракты.

Беларускі бок не ў стане задаволіць замоваў на пастаўку найноўшага ўзбраення, што звужае кола патэнцыйных кліентаў. Да таго ж Расія, ад якой адчувальна залежыць Беларусь, пераймае найбольш прыбытковыя кантракты. Таму кліентамі беларускіх фірмаў становяцца дзяржавы і арганізацыі, што купляюць тэхнічна просты рыштунак (аўтаматы, амуніцыю, асобныя часткі да зброі), альбо краіны, што знаходзяцца пад дзеяннем эканамічнага эмбарга. Менавіта такі, не заўсёды легальны, характар гандлю зброяй Беларуссю непакоіць заходнія дзяржавы.

## Дзе страляе беларускі аўтамат

Пакупнікоў беларускага ўзбраення можна падзяліць на некалькі групаў. Першая – гэта афрыканскія краіны, дзе адбываюцца лакальныя ваенныя канфлікты. Другая – гэта Ірак, Іран і краіны, якія знаходзяцца ў канфлікце з ЗША і з якімі Расія праводзіць курс на збліжэнне. Сюды ж адносяцца прадстаўнікі розных бакоў балканскага канфлікту. Трэцяя група – краіны Паўднёвай Амерыкі (Перу), Азіі (Паўночная Карэя, Кітай), Акіяніі (Папуа Новая Гвінея).

Значная частка беларускага экспарту зброі скіраваная ў афрыканскія краіны, у большасці з якіх адбываюцца ваенныя канфлікты. Сярод такіх можна вылучыць Судан, Дэмакратычную Рэспубліку Конга, С'ера-Леоне, Эфіопію, Анголу, Уганду. Продаж зброі ў гэтыя дзяржавы стаўся прадметам следства ААН у мінулым годзе. Беларусь і Расія крытыкаваліся за адмову ў поўным супрацоўніцтве са следствам.

Адным з самых важных кліентаў Беларусі з'яўляецца Алжыр, замовы якога задавальняюцца ў супольнасці з Расіяй. У 1997 годзе яму было прададзена два бамбардзіроўшчыкі Су-24М, а ў 2000 годзе – 28 знішчальнікаў МіГ-29С. Патэнцыйна важным кліентам Беларусі з'яўляецца Лівія. З-за эмбарга, уведзенага ААН у 1992 г., лівійская армія не атрымлівала новага ўзбраення, таму вымагае вайсковай мадэрнізацыі – а гэта можа прынесці значныя прыбыткі прадаўцам. Лівійцы зацікаўленыя ў набыцці сістэмаў супрацьпаветранай абароны і баявых самалётаў, а таксама ў навучанні ваенных спецыялістаў.

Чарговым важным рынкам, на якім працуе Беларусь (разам з Расіяй), з'яўляюцца Ірак і Іран. Продаж зброі ў гэты рэгіён, акрамя фінансавага чынніка, мае яшчэ і чыннік палітычны. Беларуска-іракскае супрацоўніцтва распачалося ў 1995 г., а ўжо ў 1996 і 1997 гг. інспекцыя ААН знайшла ў Іраку спецыяльнае абсталяванне беларускага паходжання для вытворчасці зброі. У 1998 г. на артылерыйскім заводзе інспектары знайшлі беларускія аптычныя прыстасаванні. Зразумела, што пастаўка такога абсталявання была забароненая ААН. У мінулым годзе беларусы пры дапамозе расійцаў пачалі мадэрнізацыю сістэмы супрацьпаветранай абароны Іраку.

Высакаякаснае абсталяванне пастаўляецца таксама і ў Іран. У 1998 г. Беларусь прадала гэтай краіне вялікую колькасць рухавікоў і запчастак да танкаў Т-55, Т-62 і Т-72. Іранцы купілі таксама радыёлакацыйную станцыю. ЗША лічаць, што Беларусь можа стаць каналам пастаўкі ў Іран расійскай тэхналогіі і балістычных ракетаў.

У 1994-2000 гг. значную партыю танкаў Т-55 купіла Паўночная Карэя. 18 штурмавікоў Су-25 з поўным узбраеннем патрапіла ў 1996-97 гг. у Пэру. У 1997-99 гг. Пакістан набыў вялікую колькасць адмысловых кумулятыўных кіраваных снарадаў АТ-11. У 1999 г. і 2001 г. італьянская паліцыя затрымала значныя партыі гэтага рыштунку беларускай і ўкраінскай вытворчасці. Паводле неафіцыйных крыніцаў, апошнім часам галоўным карыстальнікам беларускай зброі былі албанскія партызаны з Арміі вызвалення Косава.

Беларускае ўзбраенне карыстаецца попытам і ў палестынцаў. У мінулым годзе ізраільскія спецслужбы перахапілі некалькі партыяў зброі і амуніцыі з Беларусі.

Для сённяшняга рэжыму гандаль зброяй з'яўляецца значнай крыніцай даходаў. Таму наўрад ці трэба чакаць яго скарачэння. Тым больш што нават і ў такім разе цяжка было б чакаць пацяплення адносінаў паміж Лукашэнкам і Захадам. Беларусь таксама не дала згоды на інспектаванне ААН ці іншымі міжнароднымі структурамі сваіх ваенных аб'ектаў згодна з падпісаным пагадненнем аб памяншэнні звычайных узбраенняў.

**Паводле:**
**Osrodek Studiow Wschodnich**
**BARCNEWS**

СПОРТ

# Каманды адмовіліся ад гульняў

Розыгрыш папярэдняга этапу жаночага Кубку Беларусі па гандболе ў мінулыя выходныя не адбыўся, бо каманды адмовіліся ўдзельнічаць. Гродзенская каманда «Гараднічанка» і мінская РУОР-БГПА-2 ігнаравалі папярэдні этап розыгрышу Кубку Беларусі па гандболе, які планавалі правесці ў Гомелі. Разам з тамтэйшай камандай «Універсітэт» яны павінны былі змагацца за пуцёўку ў фінал гэтага турніру. Аднак на турнір гандбалісткі не прыехалі. Як патлумачыў дзяржаўны трэнер Ігар Юдчыц, прычына няўкі – бядотнае фінансавае становішча камандаў. Яны не могуць аплаціць дарогу, харчаванне і пражыванне на час турніру, хаця заявачныя ўзносы ўжо былі зроблены. Такім чынам, «Гараднічанцы» і РУОР-БГПА-2 была залічана параза, і ў фінал далі пропуск гомельскаму «Універсітэту». У сакавіку 2002 году за ганаровы трафей гамяльчанкі паспрачаюцца з бялыніцкай «Друццю-Белпакам», мінскімі БГПА і «Аркатронам».

**БелаПАН**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1796 Нумар падпісаны ў друк 13/12/2001 (15:00) Наклад – 9.650